

# ПРАМЕНЬ

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

МАЙ 1996 г.
N 5 (0017)
Цана 8 сантымаў

Штомесячная ілюстратыўная газета беларусаў Латвіі ● Заснавана ў снежні 1994 года ● Рэгістрацыйнае пасведчанне N 1596


# У беларусаў Латвіі — радаснае свята:

## Прэзентацыя газеты "Прамень" і Латвійскага фонда беларускай культуры

Розныя падзеі былі ў жыцці беларускай дыяспары Латвіі. Але найбольш значнымі, на погляд многіх, лічацца тыя, якія адбыліся ў адрэзку часу паміж 1994-м годам і бягучым. Імі сталі **выхад першага нумара газеты "Прамень" і стварэнне Латвійскага фонда беларускай культуры**. Калі газета выдаецца ўжо другі год, то Фонд робіць першыя крокі.

Друкаваны орган закліканы аб'ядноўваць раскіданых па ўсёй Латвіі беларусаў на ідэях адраджэння, і, як высвятлілася зараз, вельмі багатай, але трапіўшай у занядбанне нацыянальнай духоўнай спадчыны. Задача Латвійскага фонда беларускай культуры, паміма аб'ядноўчай ролі, фінансаваць дзейнасць беларускіх ачагоў культуры.

І вось сёння ў гэтых двух інстытутах свята: наладжваецца прэзентацыя. На мерапрыемства запрошаны многія афіцыйныя асобы з Беларусі і Латвіі, акрэдытаваныя ў Рызе паслы славянскіх краін, беларускія прадпрымальнікі Латвіі, многія прадстаўнікі беларускай дыяспары Латвіі, карэспандэнты раду выходзячых у Рызе газет, тэлебачання, радыё.

Прэзентацыя — гэта адкрытае, афіцыйнае прадстаўленне грамадскасці таго, што ўжо створана, існуе, дзейнічае. У даным выпадку маецца на ўвазе наша родная газета. Яна робіць і надалей будзе займацца тым, каб мы, беларусы Латвіі, ні ў якай меры не адчувалі сябе адарванымі ад сваёй Радзімы, ад нашай цёплай, пяшчотнай зямелькі, ад нашых дарагіх, адзіных, незабыўных родзічаў, каб з яе старонак да вашага слыху даносіўся шум беларускіх дуброў, гучанне мілагучных беларускіх песень, говар навечна запаўшых у сэрцы рачулак, плёскат хваляў Нёмана, Дняпра, Сожа, Бярэзіны, Прыпяці, Гайны. Няхай газета не дасць магчымасці пражываючым у Латвіі беларусам страціць свой нацыянальны твар.

І газета, і Фонд, а гэта трэба асабліва падкрэсліць, існуюць дзякуючы намаганням многіх людзей, шмат якіх інстанцый. Але першая роля адводзіцца ў гэтай вялікай, агульнабеларускай справе прадпрымальнікам. Усім ім будзе выказана шчырая падзяка і ў час свята, і на старонках гэтага святочнага, майскага нумара газеты.

Сёння — прэзентацыя, а мо лепш будзе сказаць, хрышчэнне, акрапленне святою вадою двух народжаных — газеты і Фонда. І няхай гэта зробяць нашы самыя паважаныя святары — беларусы.



*Другі год выдаецца зусім яшчэ маладая беларуская газета "Прамень"*

*... Быў май месяц, тая пара, калі сэрца не нарадуецца цёпламу сонейку, першым кветкам, гоману птушак. І вось у такую прыгожую пору пачуўся шорах будучых старонак газеты — нашай, беларускай. Газета яшчэ кволенькім дрэўцам была пасаджана ў глебу беларушчыны Латвіі ў час канферэнцыі беларусаў Латвіі ў Рызе. Аб стварэнні газеты было абвешчана пры вялікім наплыве людзей, у прысутнасці Пасла Беларусі ў Латвіі спадара Вялічкі, беларускіх прадпрымальнікаў і многіх-многіх прыхільнікаў і сяброў таварыства "Прамень".*

*Лёгка было сказаць — стварыць, выдаваць газету. Але, як і ўсякую справу, пачынаць яе было цяжка: У гэты нялёгкі воз упрагліся прадпрымальнікі, якія спансіравалі выданне газеты на яе першым этапе — спадарыня Валянціна Аляксандраўна Піскунова, спадар Іван Іванавіч Кабановіч, старшыня таварыства "Прамень" спадар Алесь Аляксандравіч Карповіч і выбраны на пасаду галоўнага рэдактара Лявон Рыгоравіч Шакавец. Скранулі яны гэты воз з месца, і ён пакаціўся. Сёння газета выйшла пад N 5 (0017), у святочным убранні, бо ў яе прэзентацыя.*

*На здымку: заснавальнікі газеты — спадары, якія названы вышай, адраджэнцы беларускай прэсы ў незалежнай Латвіі.*

Фота В. Лісіцына.




# Да візіта ў Латвію міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь У. Л. Сянько

Як стала вядома з афіцыйных крыніцаў, у Рыгу з візітам прыбудзе міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Лявонавіч Сянько. На старонках наступнага нумара газеты мы падрабязна раскажам аб выніках сустрэчы і перагавораў высокага беларускага госця з кіраўнікамі Латвійскай Рэспублікі.

Візіт будзе кароткатэрміновым, але, як паабяцаў сам міністр, ён знойдзе час, каб сустрэцца з намі, беларусамі Латвіі. Тым, хто прыдзе на гэтую сустрэчу, трэба мець на ўвазе, што спадар Сянько вельмі заняты чалавек. Пагэтаму, каб не траціць часу, падрыхтуйце загадзя пытанні, якія б вы хацелі задаць Уладзіміру Лявонавічу.

xxx

Напярэдадні візіта рэдактар газеты разам з кіраўніком суполкі "Прамень", пры садзеянні Пасла Рэспублікі Беларусь у Латвіі спадара Вялічкі, мелі гонар быць прынятымі ў Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

У першы дзень адбылася гутарка з загадчыкам аддзела Садружнасці незалежных дзяржаў Андрэем Рыгоравічам Кулажанкам, з аташэ гэтага ж аддзела Яўгенам Сямёнавічам Вераб'ёвым і другім сакратаром МЗС Валерыем Віктаравічам Ждановічам. Ім былі зададзены пытанні, якія дыктаваліся падзеямі ў Беларусі і вакол яе. Закранаалася тэма становішча беларусаў Латвіі. Дыпламаты далі на ўсе нашыя пытанні самыя вычарпальныя адказы. Дарэчы, увесь дыялог вёўся на чыстай беларускай мове.

Нас уражыла панаваўшая ў памяшканні МЗС цішыня і ўрачыстасць. А ўяўлялася ж, што нас сустрэне мітусня супрацоўнікаў, грукат дзвярэй, разгубленасць на тварах, бо самі ведаеце, колькі ўсяго здараецца ў дзяржавах, з якімі Беларусь мае дыпламатычныя адносіны і весткі адкуль сцякаюцца ў гэтае ведамства. Сапраўды, спраў хапае, але яны вырашаюцца тут спакойна, удумліва, з глыбокім аналізам — як і падабае ў такой адказнай дыпламатычнай установе. Адгэтуль і тая развыжлівасць, і той аптымізм, якія праявіліся з боку нашых субяседнікаў, калі мы бралі ў іх інтэрв'ю. А паколькі яно было прымеркавана да візіта іх шэфа ў краіну, у якой пражывае звыш ста шасці тысяч беларусаў — у Латвію, **то першае пытанне выклікана нашым жаданнем атрымаць падцверджанне, што аб'яўлены візіт не адкладваецца, не пераносіцца**.

— Спадар Сянько прыбудзе ў Рыгу 29 мая ў другой палове дня, — адказаў Андрэй Кулажанка. — Назаўтра адбудуцца сустрэчы міністра з Прэзідэнтам Латвіі Г. Улманісам, прэм'ер-міністрам В. Шкеле і са сваім калегам спадаром Біркаўсам. У гэты ж дзень У. Сянько адбудзе ў Вену.

**— Спадар Кулажанка, скажыце: гэта першы візіт асобы такога рангу ў Латвію з моманту атрымання краінамі незалежнасці?**

— Латвію да гэтага наведваў былы міністр замежных спраў РБ Пётр Кузьміч Краўчанка. Для спадара Сянько такі візіт — першы. Але па ахопу праблемаў, па важнасці пытанняў, якія пакладзены ў павестку як перагавораў, ён значна пераўзыходзіць папярэдні. Жыццё не стаіць на месцы. Сучасны этап развіцця незалежнасці патрабуе неадкладнага абмеркавання новага пакета міждзяржаўных спраў, яшчэ больш значных, чым было ў пачатку. Вось чаму гэтаму візіту прыдаецца вялікае значэнне.

**— Хацелася б, спадар Ждановіч, пачуць ад вас як развіваліся — паспяхова, з нарастаннем ці быў нейкі застой — беларуска-латвійскія адносіны?**

— Толькі паспяхова. Напрыклад, тавараварот паміж дзвюма незалежнымі краінамі ў 1995-м годзе ў параўнанні з папярэднім павялічыўся ў 4 разы.

**— Падпісанне дагавора паміж Беларуссю і Расіяй сустрэты ў нас у Латвіі з нейкай насцярожанасцю. Ці ёсць глеба для такой занепакоенасці?**

— Гэта не так. Тое, што адбылося ў Маскве — неабходны крок, выкліканы ў першую чаргу меркаваннямі эканамічнага характару. Пра палітычнае аб'яднанне калі, то гэтага не здарыцца, Беларусь захавае свой нацыянальны твар.

xxx

Назаўтра роўна ў 2 гадзіны дня нас прыняў сам міністр. Многа гаварылася і чулася пра гэтага кіраўніка. Але, як кажуць, сумленні прэч. Ён увайшоў у залу ветлівы, энергічны, са светлым тварам — быццам да гэтага на яго плячах як не ляжаў цяжар дзяржаўных спраў. Ён адразу спадабаўся, больш таго, захапіў нас перспектывамі, якія адкрываюцца перад нашай краінай на міжнароднай арэне. Але нас цікавіла больш вузкае кола пытанняў, у прыватнасці, праблема сацыяльнай абароны. Няма міждзяржаўнага пагаднення на гэты лік. Чаму яно патрэбна? Адна справа, калі беларус — жыхар Латвіі, і зусім другая — калі ён мае беларускае грамадзянства і пабайваецца такога свайго статуса, бо не маецца адпаведнага пагаднення.

— Гэтае пытанне будзе разглядацца ў час майго візіта ў Латвію абавязкова. Мы будзем дамагацца, каб такое сапраўды важнае для вас пагадненне было падпісана ў час майго візіта ці другіх візітаў у Рыгу або Мінск.

Спадару Сянько была перададзена пісьмовая заява, якая выходзіць ад многіх беларусаў Латвіі: **адтэрмінаваць бязвізавы рэжым для неграмадзян з 1 ліпеня да новага года ці мо і да таго тэрміну, калі пачнецца кампанія па абмену пашпартаў.**

— Зробім усё неабходнае, каб станоўча вырашыць і гэтую праблему.

Закраналіся многія іншыя тэмы. Няма ў беларусаў Латвіі свайго культурнага асяродка. Вось мы і звярнуліся да міністра дапамагчы нам і ў гэтай справе.

— Думаю, атрымаецца. У Віцебску наша рэспубліка прадаставіла мясцовым латышам памяшканне пад такі цэнтр. Зараз чарга за Латвіяй выдзеліць такое ж дастойнае памяшканне, ці цэлы будынак, нашым братам у Рызе, годны для таго, каб у ім можна было абсталяваць Беларускі культурны цэнтр. У час візіта і перагавораў з кіраўніцтвам Латвіі я зраблю такую заяву і буду дабівацца іх згоды на адкрыццё такога цэнтра.

Гаварылася аб яшчэ адной надзённай справе — аб выніках падпісання ў Маскве беларуска-расійскага дагавора, аб увядзенні нібыта адзінага грашовага бюджэта для двух дзяржаў. Міністр звярнуў увагу, што многія блытаюць паняцці "адзіны" і "агульны". Яны маюць розны сэнс. Агульны — гэта тое, што будуць выдзяляць бюджэты незалежных краін на фінансаванне канкрэтных агульных спраў, скажам, на будаўніцтва буйных прадпрыемстваў, прадукцыяй якіх яны будуць карыстацца, на распрацоўку недраў і другое. "Агульны" — гэта ні ў якім разе "не адзіны". Агульны, а не адзіны — гэта калі рэч заходзіць аб сумесным фінансаванні буйнамасштабных праектаў — і толькі.

У заключэнне на нашае пытанне "Што б вы пажадалі жыхарам Латвіі", спадар міністр адказаў: пачуцця стабільнага існавання, стабільнага жыцця, шчасця, дабрабыту. Упэўнены, што дзень заўтрашні будзе лягчэйшым за сённяшні. Жадаю шчыра, глыбока захоўваць сувязь з Бацькаўшчынай. Да сустрэчы ў Рызе.

**— Дзякуем, Уладзімір Лявонавіч.**

**Інтэрв'ю ўзяў Леанід Шакавец.**

# Весткі з Бацькаўшчыны

●

У Рэспубліцы Беларусь распаўсюджана Паведамленне Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь аб сярэднямесячнай заработнай плаце рабочых і служачых за першы веснавы месяц. Мінстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у сакавіку 1996 года склала 1 142 032 рублі (ў лютым была 1 089 878 рублёў). У студзені-сакавіку 1996 года яна склала 1 087 731 рубель і павялічылася ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 2,2 раза.

●

Паведамленне супроцьлеглага зместу: Запусціўшы "пробны шар" па павышэнню платы за жыллё з 1 мая бягучага года і атрымаўшы ў адказ негатыўную рэакцыю прафсаюзаў, Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі рэспублікі перагледзела свае ранейшыя пазіцыі. Сумесна з Камітэтам цэн Міністэрства эканомікі Беларусі Мінжылкамгас распрацаваў новую шкалу росту дзеючых тарыфаў на паслугі, што аказваюцца прадпрыемствамі жыллёва-камунальнай сферы. Так, кошт водазабеспячэння плануецца павялічыць у 2,5 раза замест прапанаваных раней 3,9 раза; каналізацыі — у два разы ўзамен 2,7 раза; а цана на цеплаэнергію для ацяплення і гарачага водазабеспячэння ўзрасце ў 1,4 замест прадугледжваемага павелічэння ў тры разы. Стаўка ж кватэрнай платы стане ў 1,7 раза вышэй, чым цяперашняя.

З улікам новых тарыфаў штомесячная плата за пражыванне сям'і з трох чалавек у 2-пакаёвай кватэры плошчай 30 квадратных метраў у ацяпляльны сезон разам з коштам электразабеспячэння складзе 342.782 рублі. А ў летні перыяд, плата за жыллё будзе каштаваць сям'і 212.372 рублі.

●

Прэзідэнт РБ падпісаў Указ "Аб удасканаленні кіравання чыгуначным транспартам і дарожнай гаспадаркай Рэспублікі Беларусь". У мэтах удасканалення кіравання Беларускай чыгункай і ўваходзячымі ў яе састаў прадпрыемствамі і арганізацыямі, а таксама забеспячэння комплекснага вырашэння пытанняў функцыяніравання і развіцця аўтамабільнага транспарту і дарожнай гаспадаркі

Беларуская чыгунка з распараджэння Міністэрства транспарту і камунікацый перададзена ў непасрэднае падпарадкаванне Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Месцам знаходжання Упраўлення Беларускай чыгункі з'яўляецца будынак па вул. Леніна, 17 у г. Мінску.

Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь у трохмесячны тэрмін прапанавана забяспечыць вырашэнне ва ўстаноўленым парадку пытанняў, што вынікаюць з гэтага ўказа, прадугледзеўшы стварэнне Камітэта па аўтамабільных дарогах Міністэрства транспарту і камунікацый з правамі юрыдычнай асобы.

●

З 29 красавіка па 1 мая ў Мінску гасцяваў лідэр сусветных шахмат, чэмпіён свету па версіі ФІДЕ Анатоль Карпаў. Праграма візіту аказалася даволі насычанай. У першы дзень ён сустрэўся з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Назаўтра, пасля сустрэчы з прэм'ер-міністрам Беларусі Міхаілам Чыгіром, Анатоль Яўгенавіч прыняў удзел у шахматным фестывалі, які быў прымеркаваны да 10-й гадавіны аварыі на ЧАЭС.

У заключны дзень свайго знаходжання Карпаў сустрэўся са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёнам Шарэцкім. Адтуль яго шлях ляжаў прама ў беларускае прадстаўніцтва швейцарскай фірмы "Zepter". Яе генеральны дырэктар спадар Біджоўскі напачатку азнаёміў чэмпіёна з вартасцямі універсальнага посуду, які заваёўвае ў свеце ўсё большую папулярнасць, а таксама абмаляваў перспектывы развіцця сваёй фірмы. Дарэчы, па нацыянальнасці Біджоўскі — югаслаў, а там, як, вядома, шахматы ў пашане. А значыць, "Zepter" і шахматы маюць шмат агульнага. Не выпадкова, што для дзяцей, пацярпеўшых ад чарнобыльскай аварыі, фірмай было закуплена ў Рызе 500 камплектаў шахмат, кожны з якіх змяшчаецца ў арыгінальнай шахматнай ладдзі. Кошт такіх падарункаў склаў 2400 долараў ЗША.

●

У Мінску з 24 мая па 3 чэрвеня 1996 г. будзе праведзены V Міжнародны кінафестываль славянскіх і праваслаўных народаў "Залаты віцязь".

Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь зацвердзіў састаў арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенню V Міжнароднага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў "Залаты віцязь". Міністэрству культуры, Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі сумесна з Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь даручана аказаць садзейнічанне арганізацыйнаму камітэту па падрыхтоўцы і правядзенню названага мерапрыемства.

# Сустрэча ў Вярхоўным Савеце РБ

У час знаходжання ў Мінску прадстаўнікі беларускай дыяспары Латвіі мелі сустрэчу са старшынёй Камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета РБ Пятром Кузьмічом Краўчанкай.

Гэтага дзеяча добра ведаюць у Беларусі не толькі па ягонай былой пасадзе міністра замежных спраў. Пётр Краўчанка — непахісны змагар за палітычную самастойнасць Беларусі, за зварот нацыянальна-гістарычнай сімволікі, за сапраўднае адраджэнне багатай духоўнай спадчыны нашага народа, вяртанне занядбаных імёнаў лепшых сыноў Радзімы, усталяванне гістарычнай справядлівасці. Пазіцыя спадара Краўчанкі стане больш выразнай, калі вы прачытаеце, пачынаючы з наступнага нумара газеты, цэлую серыю яго артыкулаў. У час гутаркі з ім ён даў дазвол перадрукаваць іх. Гэта вялікі гонар для нас, праменеўцаў.

Пётр Кузьміч падрабязна ахарактарызаваў сучаснае становішча ў Беларусі, магчымае развіццё падзей, расклад палітычных сіл. Па нашай просьбе расказаў пра дзейнасць парламенцкай Камісіі, якую ён узначальвае, адказаў на шэраг пастаўленых намі пытанняў. Сярод іх — вынікі падпісання беларуска-расійскага дагавора ў Маскве, што такое калідор у Калінінградскую вобласць, як трэба рэагаваць на заяву У. Жырыноўскага адабраць ад Літвы Вільню і перадаць яе Беларусі і г. д.

Узнімалася тэма сацыяльнай абароны беларусаў Латвіі. Як сказаў спадар Краўчанка, у бытнасць яго міністрам ён прыязджаў у Латвію і перадаў адпаведныя дакументы. Але яны да гэтага часу блакіруюцца латвійскім бокам. Вось чаму няма патрэбнага вам, беларусам Латвіі, міждзяржаўнага пагаднення аб вашай сацыяльнай абароне. Але ён будзе і мо ўжо хутка, у час візіту У. Сянько ў Латвію ў канцы гэтага месяца.

Новая сустрэча з Пятром Кузьмічом адбудзецца ў Даўгаўпілсе, дзе ён будзе адкрываць мемарыяльную дошку ў гонар заснавання тут, у райнісаўскі час, Першай беларускай гімназіі.

**А. Карповіч.**

# У школу завіталі артысты

8 мая ў Рыжскай беларускай школе сустракалі першых гасцей з Беларусі: фальклорны тэатр "Госціца" пад кіраўніцтвам Ларысы Сімаковіч. Праўда, прыехалі артысты з Мінска не спецыяльна дзеля выступлення перад нашымі дзеткамі і іх бацькамі. Фальклорны тэатр "Госціца" браў удзел у Міжнародным дзіцячым і юнацкім фальклорным фестывалі, які ўжо 13-ы раз праводзіў у Латвіі Латвійскі дзяржаўны універсітэт. Нашых беларускіх артыстаў запрасілі на фестываль разам з калектывамі з Літвы, Эстоніі, Грузіі і Карэліі. Тэатр "Госціца" выступіў на адкрыцці фестывалю 4 мая, у вялікім гасцявым канцэрце 5 мая ў Доме Рыжскага Латвійскага таварыства. Цудоўныя беларускія народныя песні і танцы, абрады і спяктаклі ўбачыла вялікая колькасць людзей. А вучні беларускай школы ў святочна прыбранай вялікай залі суседняй 75-й школы чакалі гасцей з кветкамі і ўсмешкамі на тварах. Першае, што ўразіла, гэта беларускае нацыянальнае адзенне. У 35 удзельнікаў канцэрта не было ніводнага аднолькавага, ці нават падобнага касцюма (як потым мы даведаліся, іх для "Госціцы" шыюць і вышываюць у спецыяльным салоне па эскізах ці ўзорах з розных мясцовасцяў Беларусі).

Малодшыя дзеці з трупы тэатра паказалі абрадавы спектакль "Гуканне вясны", перамежаваны з песнямі, танцамі, "прытоптваннем снегу", і гуканнем вясны. А старэйшыя — спектакль — свята "Летніца" аб тым, як у старажытнасці гэтае свята праходзіла на Беларусі. На ім дзеўкі-сяброўкі святкавалі-сябравалі, а потым яны былі "дружкамі" адна ў адной на вяселлі і хрысцілі адна ў адной дзяцей. З вялікай цікавасцю глядзелі на сцэну не толькі дзеці з беларускай школы, але і вучні 75-й рускай школы. Мо яны і не разумелі беларускіх слоў, але мовою танцаў, мовою песень артысты данеслі да сэрцаў гледачоў наш беларускі каларыт і самабытнасць. Пасля канцэрту ў залі госці завіталі ў школу. Гэтулькі гасцей школа прымала толькі на Каляды, але то былі нашы рыжскія дзеці-беларусы. А тут госці з-за мяжы, з нашай Бацькаўшчыны. З прывітальным словам і расказам аб школе да артыстаў звярнуўся дырэктар В. Целеш. Ён падарыў тэатру на памяць аб сустрэчы некалькі сваіх кніжак аб Рызе. Як аказалася, госці нават не ведалі, што ў Рызе ёсць беларуская школа. Іх вельмі ўразіла, што дзеці не проста вывучаюць беларускую мову, а што ўсе прадметы выкладаюцца па-беларуску. Хлопчыкі і дзяўчаты з сумам расказалі нам, што ў Мінску ў апошні час у іх школах адкрытыя раней беларускія класы пераводзяць на рускую мову навучання. Дарэчы, у тэатры яны стараюцца гаварыць толькі па-беларуску. Спяваюць і танцуюць у асноўным мінчукі, але ёсць і таленавітыя дзеці з раёнаў. У Мінску засталася самая малодшая група артыстаў ва ўзросце ад 3 да 8 год. А ўсяго тэатру 10 год, існуе ён пры Беларускім тэлебачанні, а песні, танцы і абрады збіраюцца па ўсёй Беларусі. Усім гасцям вельмі спадабалася Рыга і Латвія, і яны з радасцю прынялі прапанову калі-нібудзь прыехаць яшчэ раз, ужо па запрашэнню беларусаў Латвіі, і выступіць не толькі перад дзеткамі, але і перад усімі беларусамі. У школе зноў і зноў гучалі цудоўныя беларускія народныя песні, такія, якіх я нават ніколі не чула, калі жыла ў Беларусі. Моцнымі, прыгожымі галасамі беларускіх хлопцаў і дзяўчат напоўніліся ў той дзень невялікія класы беларускай школы.

Госці і гаспадары развіталіся з надзеяю на наступную сустрэчу.

**Таццяна Казак, сябра "Світанка".**

# Віншуем!

Беларускаму жывапісцу, сябру аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар" Мацею Чырычу споўнілася 60 гадоў. Шчыра віншуем яго з юбілеем, зычым добрага здароўя, шчасця, творчага натхнення, з'яўлення новых шэдэўраў, якія б склалі гонар нашай Радзімы, неслі б у наш беларускі асяродак высокія гуманістычныя ідэі.

Са слаўным 60-годдзем цябе, паважаны Мацей!

**Аб'яднанне мастакоў Балтыі "Маю гонар", Таварыствы "Світанак" і "Прамень", твае прыхільнікі-беларусы.**

